№ 53 (1866)
Чацвер, 25 сакавіка 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля»
Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +8...+10, уначы — +7...+9, на працягу сутак — дождж; у Брэсце ўдзень — +8...+10, дождж, уначы — +6...+8, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +9...+11, уначы — +7...+9, на працягу сутак — дождж; у Віцебску ўдзень — +8...+10, дождж, уначы — +6...+8, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +9...+11, дождж, уначы — +6...+8, дождж; у Магілёве ўдзень — +8...+10, уначы — +6...+8, на працягу сутак — дождж.

www.meteo.by



**ПУЛЬС**

## Сеем!

У шэрагу гаспадарак Брэсцкай вобласці пачалася сяўба ранніх збожжавых. Сяўба аўсу і ячменю ідзе на ўчастках, дзе без праблем можа прайсці тэхніка.

Напрыклад, хлебаробы Брэсцкага раёна плануюць за 10—12 дзён пасеяць яравыя на плошчы 7 тысяч 370 гектараў і сабраць з гэтых плошчаў не менш за 61 тысячу тон збожжа.

Паводле звестак абласнога Камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванні, да сяўбы ранніх каласавых прыступілі таксама гаспадаркі Маларыцкага, Пінскага, Камянецкага і Жабінкаўскага раёнаў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Прэмія Францішка Багушэвіча — Захару Шыбеку

Сёння, 25 сакавіка, Беларускі ПЕН-цэнтр уручыць традыцыйную прэмію імя Францішка Багушэвіча. Гэтая ўзнагарода прызначаецца за творы гістарычнага жанру. Сёлета на яе быў толькі адзін прэтэндэнт, і камісія па прэміі прагаласавала за ягоную кандыдатуру адзінагалосна. Гэта — **Захар ШЫБЕКА** са сваім "Нарысам гісторыі Беларусі 1795—2002".

Захар Шыбека — доктар гістарычных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта. Аўтар кніг "Мінск: старонкі жыцця дарэвалюцыйнага горада" (1994), "Гарады Беларусі: 60-я гады XIX ст. — пачатак XX ст." (1997), "Нарыс гісторыі Беларусі. 1795—2002" (2003).

## Таленавіты хлопчык жыве ў Ахонаве

Федзя Бурдун вучыцца ў сёмым класе Ахонаўскай базавай школы, што ў Дзятлаўскім раёне. Ён вельмі любіць інфарматыку, але гэты прадмет па праграме пачынаюць вывучаць толькі з восьмага класа. Хлопчык не стаў чакаць, а ўзяўся за справу сам. Калі ў школе набылі камп'ютэр, ён праводзіў за ім амаль увесь вольны час. І дабіўся выдатных поспехаў. Ведаючы пра вялікія здольнасці хлопчыка, яго ўзялі сёлета на раённую алімпіяду па інфарматыцы, у якой прымалі ўдзел старэйшыя за яго вучні, якія ўжо вывучаюць гэты прадмет па году і больш. Аднак у спаборніцтве Федзя аказаўся мацнейшы за ўсіх і заняў першае месца.

Потым была абласная алімпіяда, у якой удзельнічалі не толькі вучні школ, але і гімназій, ліцэяў. Там Федзя Бурдун выйшаў на трэцяе месца і атрымаў права ўдзельнічаць у рэспубліканскай алімпіядзе.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

## Гінуць, як на вайне

Штогод у Беларусі ў выніку дарожна-транспартных здарэнняў гінуць каля двух тысяч чалавек, каля сямі тысяч — атрымліваюць раненні.

Асноўнай прычынай гібелі і ранення людзей з'яўляецца абыякавае стаўленне да выканання правіл дарожнага руху. Так, каля 45 працэнтаў чалавек гінуць з-за раптоўнага з'яўлення пешахода перад транспартным сродкам. Смерць у выніку сутыкнення транспартных сродкаў сустракаецца амаль у 30 працэнтах выпадкаў.

Смяротныя вынікі з-за перавышэння хуткасці маюць месца ў 15 працэнтах усіх смерцяў, звязаных з дарожнай траўмай. Больш за 25 працэнтаў выпадкаў, што прыводзяць да смерці, адбываюцца па віне пешаходаў; на сумленні нецвярозых вадзіцеляў — каля 12 працэнтаў загінуўшых.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## «Варты жалю той народ, што не ўшаноўвае кожны год такія імёны...»

Вечарына памяці "З Каліноўскім у сэрцы", прысвечаная 140-годдзю з дня пакарання смерцю царскімі ўладамі кіраўніка нацыянальна-вызвольнага паўстання Кастуся Вікенція Каліноўскага, прайшла ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Францішка Скарыны.

У вечарыне ўзялі ўдзел вядомыя беларускія навукоўцы, паэты, барды, акцёры і мастакі.

Літаратуравед Генадзь Кісялёў у сваім выступленні падкрэсліў, што К.Каліноўскі першым з дваран "выступіў на баку простага народа, які на той час быў у жахлівым становішчы".

Актрыса Галіна Дзягілева падзялілася з удзельнікамі вечарыны ўспамінамі аб падрыхтоўцы спектакля "Кастусь Каліноўскі" паводле матываў твораў Уладзіміра Караткевіча.

"Варты жалю той народ, што не ўшаноўвае кожны год такія імёны", — адзначыў даследчык Язэп Янушкевіч.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Дадатковае пагадненне з «Сибуром»

Сібірска-Уральская нафтагазахімічная кампанія "Сибур" і ААТ "Белтрансгаз" падпісалі дадатковае пагадненне аб пастаўках у сакавіку 420 млн. кубічных метраў прыроднага газу.

Кіраўнік прэс-службы "Сибура" Генадзь Фядотаў паведаміў, што пастаўкі газу ў Беларусь па цане 46,68 долара ЗША за тысячу кубічных метраў пачаліся ўчора. Ён падкрэсліў, што сённяшняе пагадненне "ніякім чынам не перакрывае папярэдняе", падпісанае 10 сакавіка. У тым дакуменце размова ішла аб пастаўцы "Сибуром" у сакавіку ў Беларусь 200 млн. кубічных метраў газу. У новым пагадненні "Сибур" абавязуецца паставіць у краіну дадаткова 420 млн. кубаметраў.

Нагадаем, што 23 сакавіка "Белтрансгаз" адмовіўся ад падпісання практычна гатовага пагаднення з "ТрансНафтай" аб дадатковай пастаўцы 500 млн. кубічных метраў газу ў сакавіку па той жа цане — 46,68 долара ЗША за тысячу кубічных метраў.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## «Германія — Польшча — Беларусь»

Арганізатарамі форуму, які пройдзе ў Мінску 25—27 сакавіка, выступаюць дыпламатычныя прадстаўніцтвы Германіі і Польшчы ў Беларусі, а таксама Германа-беларускае таварыства (Берлін).

Шэсць канферэнцый, якія з 1997 года да гэтага часу адбыліся ў рамках Мінскага форуму, зазначае прэс-служба нямецкага пасольства, з'яўляліся "адкрытым подыумам для дыскусіі па пытаннях беларускай унутранай і знешняй палітыкі, эканамічных і культурных сувязяў". З улікам пашырэння ў маі 2004 года Еўрасаюза да межаў Беларусі сёлета пашыраны і традыцыйна двухбаковы фармат германа-беларускага форуму.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## Андрэй Курэйчык прывёз з Амерыкі новы праект

У хуткім часе плануецца рэалізаваць два унікальных беларуска-амерыканскіх праекты. Пра гэта паведаміў драматург Андрэй Курэйчык, які нядаўна вярнуўся з ЗША.

Першы — правядзенне ў Мінску Міжнароднай драматургічнай лабараторыі сіламі тэатральнага цэнтра "LARK THEATRE COMPANY" з Нью-Йорка, які вядомы ў Амерыцы як адзін з галоўных прадзюсерскіх і адукацыйных цэнтраў для драматургаў і рэжысёраў. Мяркуецца, што ў працы лабараторыі, якая працягнецца тыдзень, возьмуць удзел драматургі з сусветнымі імёнамі — Артур Кокпіт і Лен Джэнкінс.

Другі праект — запрашэнне ў Беларусь з адукацыйнымі мэтамі прадстаўнікоў Школы драмы Йельскага універсітэта і Амерыканскай тэатральнай асацыяцыі.

Апрача таго, паводле слоў А.Курэйчыка, цяпер на стадыі падрыхтоўкі знаходзіцца яшчэ некалькі праектаў, сярод якіх — пастаноўка яго п'есы "Выканаўца жаданняў" у тэатры "Атрыум" (Чыкага).

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

# 25-е, найгалоўнейшы дзень для ўсіх, каму дарагая Беларусь

*Сябры Народнага Сакратарыята БНР: (злева направа, сядзяць) Алесь Бурбіс, Іван Серада, Язэп Варонка (старшыня), Васіль Захарка; (стаяць) Аркадзь Смоліч, Пётра Крэчэўскі, Кастусь Езавітаў, Антон Аўсянік, Лявон Заяц.*

Ён прыходзіць да нас вясновай сакавіцкай парой, калі абуджаецца ад зімовага сну зямля, калі вальней дыхаюць грудзі, а крылы людскіх надзей, светлых мар аб годнай будучыні дужэюць у палёце.

Гэта — Дзень Волі: дзень абвяшчэння ў 1918 годзе Беларускай Народнай Рэспублікі, дзень аднаўлення нашай тысячагадовай дзяржаўнасці, гвалтоўна перарванай у XVIII стагоддзі. Дзень-сімвал у гісторыі Бацькаўшчыны, яе сённяшнім і заўтрашнім дні, ніць у ланцугу пакаленняў, што заўжды прагнулі быць гаспадарамі ў сваім Доме, на сваёй зямлі. Прагнулі і прагнуць жыць вольна, заможна і прыгожа, у сяброўстве з усім цывілізаваным светам. Сваімі добрымі справамі дзеля любай Айчыны, сваёй гераічнасцю і самаадданасцю яны клалі і кладуць цагліну за цаглінай у падмурак Беларускай нацыянальнай ідэі, за якую дзеля нашчадкаў — гэта значыць, для нас з вамі, нашых дзяцей і ўнукаў — не вагаючыся, аддавалі жыцці ў ахвярным змаганні.

25 сакавіка 1918 года мужныя, мудрыя, годныя, прадбачлівыя нашы папярэднікі абвясцілі: **Беларусь — незалежная дэмакратычная дзяржава!** Усе яе грамадзяне, незалежна ад нацыянальнасці, набываюць права людзьмі звацца і людзьмі быць, будаваць свой уласны Дом. Яны абвясцілі Народную Вясну!

Маскоўскія бальшавікі бязлітасна задушылі гістарычную мару беларусаў, а іх спрадвечную зямлю без іх удзелу пашматалі на часткі. У часы савецкай улады пра адну з найвялікшых падзей у нашай нацыянальнай гісторыі нельга было нават згадваць. І да гэтай пары святая ў свядомасці беларускіх патрыётаў дата **25 сакавіка** не сталася дзяржаўным святам.

Але станецца, абавязкова станецца. Бо запісана агнявістымі літарамі ў нашых сэрцах і не сатрэцца ніколі. Бо і сёння, у трывожны час, надае нам сілы ў адстойванні незалежнасці Бацькаўшчыны, яе шчаснага лёсу.

Са святам, дарагія людзі! Дабра вам, здзяйснення ўсіх мар, нязгаснай памяці пра лепшых сыноў Беларусі — змагароў за яе Волю! Будзем годныя гэтай Памяці!

***(Матэрыялы, прысвечаныя 86-м угодкам абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, чытайце на 3-й старонцы.)***

**БЕЛАРУСЬ І СВЕТ**

## Дзверы ў Еўропу застаюцца адкрытымі

*Калі восем гадоў таму разам з Зянонам Пазьняком на сустрэчы ў прэзідэнцкім палацы на Градчанах мы гаварылі пра пагрозу дэмакратыі, якая ідзе ад Лукашэнкі, нас ветліва выслухалі, а потым сказалі, што Беларусь — гэта вельмі далёка ад Прагі, гэта па-першае, а па-другое — дэмакратычная Расія не дазволіць узмацніцца аўтарытарызму ў краіне-суседцы. Потым былі дзесяткі размоў з чэшскімі палітыкамі, палітолагамі і журналістамі, на якіх давялося даказваць супрацьлеглае.*

Сёння ілюзіі наконт "дэмакратызму" Расіі — у мінулым, а тэма Беларусі зрабілася адной з найбольш актуальных. "Беларусь — нашая новая суседка" — такой была тэма міжнароднай канферэнцыі, якая прайшла днямі ў Сенаце Чэшскай Рэспублікі.

Распачалі канферэнцыю былы прэзідэнт Чэхіі Вацлаў Гавел і старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла.

У сваім выступе Вацлаў Гавел сказаў, што, ці быць Беларусі ў Еўропе — гэта павінен вырашаць сам беларускі народ. Але калі ён зробіць еўрапейскі выбар, абярэ шлях на Захад — дык абавязак еўрапейскіх краін будзе — дапамагчы пасьпяхова прайсці гэты шлях. "Мы павінны трымаць для Беларусі дзверы адкрытымі", — сказаў Гавел.

Івонка Сурвілла адзначыла, што Беларусь была, ёсць і будзе краінай еўрапейскай і рэзка пакрытыкавала палітыку Масквы, якая ўжывае эканамічны, у тым ліку і газавы фактар, у мэтах анексіі ўсходняй суседкі.

"Беларусь — гэта не прыдатак Польшчы. Беларусь — гэта не прыдатак Еўропы. Беларусь — гэта Беларусь", — сказаў віцэ-прэм'ер Чэхіі Петэр Марэш. Хаця, на ягоную думку, перспектывы будучых парламенцкіх выбараў для беларускай апазіцыі не выглядаюць аптымістычнымі з-за шэрагу прычын, найперш з-за дзяржаўнай манаполіі на прэсу, Еўропа павінна ўважліва сачыць за палітычнымі працэсамі ў Беларусі. Накіраваць назіральнікаў на выбары паабяцаў віцэ-старшыня Сената Ян Румал.

Удзел у дыскусіі прынялі і госці з Мінска, прадстаўнікі Партыі БНФ Алесь Міхалевіч і Аляксей Янукевіч.

Падчас знаходжання ў Празе Івонка Сурвілла мела сустрэчы са старшынёй Сената Чэхіі Пітарам Пітгардам, старшынёй ніжняй палаты парламента Любамірам Зааралкам, міністрам замежных спраў Чэхіі Кірылам Свобадай.

Пра такі ўзровень сустрэч, нягледзячы на ўсе высілкі мінскай дыпламатыі, і марыць не можа Аляксандр Лукашэнка, што і пацвердзіла ягоная нядаўняя паездка ў Славенію.

Дарэчы, падчас гутарак з кіраўнікамі Чэхіі старшыня Рады БНР падкрэслівала, што ізаляцыя антыдэмакратычнага кіраўніцтва не павінна пераўтварацца ў ізаляцыю народа, і ўзняла пытанне пераходу да больш спрошчанага атрымання грамадзянамі Беларусі віз у еўрапейскія краіны, а ў перспектыве — і іх скасавання, як гэта адбылося ў адносінах да грамадзян краін Балтыі.

**Сяргей НАВУМЧЫК,**
**намеснік Старшыні Рады БНР.**

## Агеньчык нашай надзеі

Дарагія Суродзічы!

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі вітаю Вас з нашым слаўным Днём Волі — 25-м сакавіком — днём, калі наш народ абвясціў свету ў 1918 годзе, пасля доўгіх гадоў зняволення, што ён жыве, што жадае мець сваю ўласную незалежную дзяржаву, што хоча заняць пачэснае месца між іншымі народамі свету.

Падчас доўгіх год бальшавіцкай улады, калі Масква і яе калабаранты ў Мінску стараліся ўсялякімі спосабамі сцерці гэты дзень з нашай памяці, ён быў для беларусаў тым "агеньчыкам", той надзеяй, аб якой наш дарагі Васіль Быкаў гаварыў на сваім апошнім святкаванні 25 сакавіка год таму ў Празе.

Дык адзначым гэты дзень з любоўю да сваёй Бацькаўшчыны, з гордасцю за сваю спадчыну, за сваю гісторыю, за сваіх продкаў, якія аддана і адважна баранілі сваю зямлю ад захопнікаў, і з радасцю — бо мы ўсё ж перамаглі!

Аднак край наш яшчэ не ёсць такім, якім мы яго жадаем. Цяжкія ўмовы жыцця, непавага да людскіх правоў і да нашай мовы і культуры, пагроза незалежнасці нашай дзяржавы яшчэ ўсё турбуюць жыццё нашага народа. Але ж ёсць у нас дзяржава! І заходні свет ніколі так не спрыяў незалежнасці Беларусі і дэмакратычнаму ладу жыцця ў нашай краіне, як цяпер.

І цяпер ад нас саміх залежыць, ці выкарыстаем мы гэтыя спрыяльныя палітычныя ўмовы і ці зойме наша дзяржава пачэснае месца між іншымі народамі свету, ці не.

Нашым святым абавязкам ёсць не толькі абараніць здабытае, але і адбудаваць наш край. Гэта мусіць быць мэта кожнага беларуса, пакуль наш край не станецца нармальнай еўрапейскай дэмакратыяй, а ўрад наш не пачне працаваць на карысць Беларусі, а не штучнай — толькі яму выгаднай — ідэалогіі.

Дык дапамажы нам, Божа!
Жыве Беларусь!

**Івонка СУРВІЛЛА.**

## Затрымалі і адпусцілі

*Старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка, сакратар ЦК Партыі камуністаў Беларускай Алена Скрыган і член Палітсавета Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Паўлаў, затрыманыя супрацоўнікамі міліцыі ў Слоніме вечарам 23 сакавіка, вярнуліся ў Мінск.*

Як паведаміў БелаПАН па тэлефоне В.Вячорка, палітыкі прыбылі ў Слонім як прадстаўнікі Народнай кааліцыі **"5+"** для ўдзелу ў сустрэчы з выбаршчыкамі, якую праводзіў дэпутат мясцовага Савета Іван Шэга.

Сустрэча павінна была адбыцца ў 18.00 у гарадской сярэдняй школе № 4. Аднак у прызначаны час навучальная ўстанова аказалася зачыненай. Тады І.Шэга вырашыў правесці сустрэчу з выбаршчыкамі, якіх сабралася каля 40 чалавек, на школьным двары.

Паводле слоў В.Вячоркі, прадстаўнікі "пяцёркі" ўзялі актыўны ўдзел у дыскусіі, а таксама расказалі пра Народную кааліцыю **"5+"**.

Пасля сходу палітыкаў разам з тамтэйшым дэпутатам затрымалі супрацоўнікі мясцовага АМАПа, адабралі дакументы і даставілі да будынка РУУС.

Там палітыкі знаходзіліся больш за дзве гадзіны. Потым, паводле слоў В.Вячоркі, ім вярнулі дакументы. Пасля чаго прадстаўнікі "пяцёркі" выехалі ў Мінск.

"Мы расцэньваем гэты факт як спробу перашкоды ўлад сустрэчам дэпутатаў са сваімі выбаршчыкамі. Спачатку па нейкіх адміністрацыйных прычынах дэпутату не даюць памяшканне і ён вымушаны праводзіць гэтую сустрэчу на вуліцы, а потым на яго складаецца адміністрацыйны пратакол. Гэта асабліва дзіўна, што пра сустрэчу з выбаршчыкамі было паведамлена ў раённай дзяржаўнай газеце", — сказаў В.Вячорка.

У раённым УУС Слоніма карэспандэнту БелаПАН паведамілі, што ніякага затрымання палітыкаў не было, з імі толькі правялі гутарку, пасля чаго прадстаўнікоў "пяцёркі" адпусцілі. Ніякіх адміністрацыйных пратаколаў аб правядзенні несанкцыянаванага сходу не складалася і складацца не будзе, запэўніў БелаПАН дзяжурны па Слонімскім РУУС.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**



**ПРЕЗЕНТАЦИЯ**

## Андрей Климов помиловал Санникова, Абрамову, Шлындикова, Середича и Пашкевича и отправил на эшафот Коноплева, Малумова, Абрамовича, Глуховского и Долголева

Экс-бизнесмен **Андрей Климов** написал очередную книгу. Называется — ***"Площадь Независимости"***. В Минске, где слышатся взрывы, грохот танков, снайперы отстреливают каких-то людей, Климов встречается и беседует с такими личностями, как **Иосиф Бродский, Анатолий Собчак, Альфред Нобель, Галина Старовойтова, Христофор Колумб, Уильям Шекспир, Язеп Дроздович**, знакомится на перроне с **Владимиром Путиным** и пишет письмо **Борхесу.**

Несмотря на жанр фантасмагории, а значит, на нереальность изложенного, в отдельных главах есть весьма любопытные моменты. Например, в своем письме Климов рассказывает писателю Борхесу, что, на его личный взгляд, произошло с **Виктором Гончаром** и **Анатолием Красовским.**

*"Гончара вместе с Красовским расстреляли в минском СИЗО на Володарского и похоронили на спецучастке Северного кладбища. Кто привел приговор в исполнение? Думаю, начальник тюрьмы* **Алкаев.** *Уж очень он хотел стать министром внутренних дел. Кто дал ему такое право? Судья. Он тоже был задействован в устранении политических оппонентов власти. Весь вопрос в том, сколько они будут молчать?"*, — пишет Климов.

Борхесу он также рассказывает о том, что *"среди членов комиссии Верховного Совета, которая должна была подготовить почву для юридического обоснования требования Верховного Совета 13-го созыва о привлечении Лукашенко к уголовной отвественности, был предатель, а может, и не один. Перечислять всех членов комиссии я не буду, но одного из тех, в порядочности которых сейчас сомневаюсь, я изредка встречаю на оппозиционных тусовках. Мы пожимаем друг другу руку и мило улыбаемся. Что делать, еще не пришло время вешать на людей знаки "отличия"*.

В последней главе книги генералиссимус **Франсиско Франко** предлагает Климову выбрать тех людей, кто, по его мнению, заслужил прощения.

*"Их не должно быть много, но и в количестве ты не ограничен,* -- говорит Франко. — *Ты руководствуешься только своими представлениями о верности, чести и степени вины каждого. Безусловно, окончательный вердикт за мной. Но тебе предоставляется шанс исправить возможную судебную ошибку... Они все виновны. Речь идет только о помиловании"*.

*"Мне не пришлось долго сомневаться,* — пишет Климов. — *Когда я увидел в толпе лица* **Коноплева, Малумова, Абрамовича, Глуховского и Долголева,** *я сразу же остыл к идее всепрощения,* — пишет Климов. — *Однако затем передо мной стали появляться лица тех, жизнь кого представляла для меня действительную ценность. До меня не сразу дошло, что сейчас из меня делают не просто судью, но и помощника палача. Прозрение пришло слишком поздно, когда я уже произнес имена* **Санникова, Абрамовой, Шлындикова, Середича, Пашкевича, Ходыко, Чигиря, Леонова, Новосяда, Гриба, Бондаренко..."**

Как следует далее по тексту, всех, кого назвал Климов, повели на казнь...

*"Палачи не рассуждают, когда исполняют приговор"*, — такими словами заканчивается "Площадь Независимости".

Третья книга Андрея Климова и его соавтора **Евгения Огурцова** вышла небольшим тиражом *(всего 500 экземпляров)* в московской типографии "Т-сервис".

Презентация "Площади Независимости" состоится на следующей неделе в одном из столичных кафе.

В белорусских книжных магазинах "Площадь Независимости" не продается.

По словам Андрея Евгеньевича, в ближайшее время появится еще одна книга. Она будет полностью посвящена выборам. Судя по всему, президентским, поскольку Климов уже заявил о своем желании занять кресло, в котором сегодня пока сидит Александр Григорьевич...

**Марина КОКТЫШ.**

Народная Воля
25 САКАВІКА 2004 г.

МЫСЛИ ВСЛУХ

*Валерий ФРОЛОВ,*
*депутат Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь*

# Про опилки, безответную любовь и «кузькину мать» в придачу

*Бывают дни, когда на мое имя в Палату представителей приходят десятки писем. Люди взывают о помощи, пишут о безразличии и самоуправстве чиновников, нищенских зарплатах и пенсиях.*

*Намного реже, но все же приходят письма о том, что людей устраивает проводимая нынешней властью политика и что она способна вывести страну из социально-экономического тупика.*

### «Наш президент экономист, не читает по бумажкам...»

Написала Анна Ивановна Морозова из Могилева. В этом областном центре, как и во многих других городах и весях, сторонники организованного нами общественного движения "За достойную жизнь" собирают подписи под открытым обращением граждан к президенту и правительству. В нем говорится о снижении коммунальных платежей и о том, что рост тарифов должен соответствовать росту доходов граждан. В обращении говорится также о необходимости внесения изменений в Избирательный кодекс против фальсификаций и подтасовок результатов выборов.

Анна Ивановна, как и ее соседи, поставила свою подпись и поддержала наши инициативы. Потому что "квартплата, — пишет она, — выросла до таких размеров, что денег на жизнь не хватает". Из 128 тысяч рублей пенсии 48 тысяч ей приходится отдавать за однокомнатную квартиру. Хотела в январе поменять паспорт, но не получилось, потому что стоило это 11 тысяч рублей. Решила отложить обмен до следующего месяца, так как по телевидению передали, "что в феврале пенсия увеличится на 18%".

Но зашла пенсионерка в магазин "и увидела, как поднялись цены на хлебобулочные изделия, молочные продукты, овощи. Цены меняются часто и растут с опережением. Кто их остановит?"

"Сейчас рыночные отношения, — продолжает свое повествование Анна Ивановна. — Беларусь и Россия — прежде всего, партнеры, а потом уже братские республики. Рынок неумолимо диктует свои условия и никакой дядя тут не поможет.

Российские воротилы давно хотели бы купить Беларусь на корню, пользуясь тем, что у нас нет своих энергоносителей. Им не нужна суверенная Беларусь.

Не зря Немцов приезжал договариваться с оппозицией, чтобы ускорить процесс объединения.

Но наш президент не сдаст Беларусь ни под каким бы то ни было давлением. Я его уважаю и ценю не только за это, а еще за то, что он технически грамотный человек, экономист, не читает по бумажкам, как некоторые, и пульс республики держит до мелочей... Лично я ему доверяю.

Республика стала использовать, кроме газа, другие виды топлива. Показали по ТВ рабочего, как он забрасывает опилки в топку и говорит: "Мусор".

Я — инженер-строитель. Это не мусор, а отходы пиломатериалов (опилки, стружка, щепа). Эти отходы являются калорийным топливом для небольших котельных. Вполне разумно.

...У нас теперь молодой, энергичный премьер. У меня есть надежда, что он поправит положение в республике и выведет ее на должный уровень.

Я белоруска, но прожила в России 30 лет. Там получила высшее образование, там встретила свою любовь, там мои друзья. Сейчас мы с ними только переписываемся. Я их люблю и Россию тоже. Когда будет Союз, может, увидимся. Дожить бы только".

Я ответил уважаемой Анне Ивановне на ее, без сомнения, искреннее письмо. Но с некоторыми размышлениями, думаю, не лишним будет ознакомить более широкий круг читателей.

Читаю подобные письма и наталкиваюсь на мысль о том, что многие люди старшего поколения не могут, а возможно, и не хотят разобраться в том, что же на самом деле происходит в нашей стране. Они верят всему, о чем вещают государственные телеканалы и казенные пропагандисты.

Я прослужил в армии 35 лет, более половины из них — в России, где у меня тоже много друзей. Я с ними не только переписываюсь, но и часто встречаюсь. Говорим о жизни, политике, о взаимоотношениях между нашими странами. Что касается экономики, то нам давно следовало перейти на чисто деловые, прагматичные отношения. Другого пути нет и не будет.

Государства могут и должны договариваться, взаимные претензии и упреки ведут в никуда.

Газовый скандал из экономического перерос в политический неспроста, к этому приложили руку не только "категоричные" чиновники, но и белорусский президент. Заявить на весь мир, что прекращение поставок газа Россией — "это акт терроризма на самом высоком уровне", — до такого нужно было додуматься!

Это сродни случаю, когда Генсек Н.С.Хрущев, взойдя на "подиум" ООН, стучал по трибуне башмаком и обещал всему свету показать "кузькину мать". Ничего, кроме конфуза, из этого не вышло. Потом советским дипломатам пришлось еще долго расхлебывать эту кашу.

Недавний выпад в адрес России вызвал с ее стороны соответствующую реакцию. Вот как охарактеризовал его бывший вицеспикер Госдумы (сегодня вицепремьер) России Александр Жуков: "Заявление Лукашенко о терроризме России — политический беспредел. Лукашенко покупал у нас газ по 28 долларов за 1 тысячу кубов, а продавал своему населению по 70 долларов! У нас не хватает газа россиянам...

Очевидно, что в Беларуси экономические трудности. Лукашенко, согласившись на условия Путина платить за газ, как бы делает Путина виновным в ухудшении жизни белорусов". К этим словам сложно что-либо добавить. Уже стало закономерным, когда собственные просчеты и бестолковость нынешняя власть старается спихнуть на кого угодно. Избегая тем самым, как ей кажется, личной ответственности.

Александр Лукашенко часто упрекает россиян (правда, в последнее время он заметно поутих), что они пользуются своими военными базами на территории Беларуси, воздушным пространством и не платят за это. Так почему он не инициировал подписание взаимовыгодных договоров, чтобы все поставить на разумную основу?

Теперь о Борисе Немцове, который, как считает Анна Ивановна, приезжал, "чтобы ускорить процесс объединения". Я хорошо знаком с этим российским политиком и присутствовал на той встрече. Да, Немцов за союз, но прежде всего экономический, он за союз двух суверенных государств. И в том, что он с большим уважением относится к Беларуси, поверьте, есть и моя заслуга. Ведь не секрет, что в России хватает влиятельных людей, которые воспринимают нашу страну только как одну из российских губерний.

Я за суверенитет нашего государства, мы можем жить так, что нам завидовать будут. Но для этого необходимы цивилизованные подходы в управлении экономикой, формировании внутренней и внешней политики.

### Опилки не спасут Беларусь

Не имея своих энергоресурсов, мы просто вынуждены договариваться. Что и произошло недавно: теперь мы будем покупать газ на условиях России.

Но уважаемой Анне Ивановне, как и многим другим, хочется верить в чудо. Зная об этом, власть тут же приготовила для незадачливого зрителя очередную порцию "телелапши". Мол, мы и на мусоре проживем. В сегодняшней ситуации это обычный пропагандистский трюк.

Да, есть альтернативные методы получения энергии, в том числе переработка и использование мусора. Но все не так просто, как кажется на первый взгляд. Для того чтобы использовать альтернативные источники тепла, необходима долгосрочная государственная программа по их внедрению. Нужны средства, чтобы привлечь опыт отечественных и зарубежных конструкторов, экологов, ученых, а их у нас нет.

Хотя чему удивляться? Манипулирование общественным мнением происходит постоянно. Возьмите хотя бы незначительное снижение цен на спиртное накануне Нового года. Наиболее наивная часть белорусов, которые привыкли к постоянному росту цен, обрадовались. Но ненадолго. Отрезвление пришло быстро: после праздников цены не только вернулись назад, но и поползли вверх. Это не что иное, как циничная и дешевая игра власти с целью поднять свой авторитет. Лучше бы президент и чиновники, которых народ нанял на работу и содержит в тепле и сытости, снизили цены на лекарства, молоко, хлеб и другие продукты питания.

Полстраны, которая географически расположена в центре Европы, ходит на работу с бутербродами. Многие люди не могут себе позволить полноценно пообедать даже в столовой, не говоря уже о кафе или ресторане.

Анна Ивановна написала, что "наш президент технически грамотный, экономист, не читает по бумажкам... и пульс республики держит до мелочей". Но тогда непонятно, почему постоянно растут цены на продукты питания и промышленные товары. Может, он не на том месте руку держит?

Думаю, что президенту не нужно заниматься мелочами, ведь за ними можно упустить главное. В нашей стране хватает опытных руководителей, которым можно поручить эти самые "мелочи". Но беда в том, что их инициатива связана, они живут в постоянном страхе, что сделают что-то не так, как хочет президент.

У меня не одно высшее образование, но я не считаю, что все знаю и способен одночасно руководить врачом-гинекологом, олимпийской сборной, банкиром, ученым, председателем колхоза, директором предприятия, ректором института, телевидением, радио и т.д.

**Создать условия и дать людям возможность творчески работать в рамках закона — в этом, считаю, заключается главная цель мудрого руководителя.**

В белорусском парламенте достаточно опытных и образованных депутатов. Но, к сожалению, нам отведена роль статистов, принимающих законы, которые не могут существенно влиять на жизнь страны. Все основополагающие направления в развитии государства определяются декретами и указами президента. Результаты этого руководства налицо: экономический и политический кризис, усиление самоизоляции страны, снижение уровня жизни и обнищание людей, обостренное чувство страха перед завтрашним днем. Это свидетельствует только о том, что "любовь" со стороны власти по отношению к народу безответная.

### Менять нужно не премьера

Я много езжу по стране и часто вижу голодных, плохо одетых, продрогших от холода детей. Небольшими стайками они крутятся у вокзалов, магазинов и просят на кусок хлеба.

Мы дожили до того, что при живых родителях детей забирают в школы-интернаты и детские дома, где не хватает мест. Только в одной Могилевской области ждут приюта 300 детей. Хорошо, что государство берет заботу о них на себя. Но заполненных пьяным угаром, болью и нищетой селянских хат, где страдают дети, становится все больше. Ведь не секрет, что во многих колхозах зарабатывают гроши, выплату которых задерживают. Люди устают от беспросветной жизни и находят утешение в стакане. По этому поводу принимаются знакомые с приснопамятных времен директивы. Но они не затрагивают коренных причин, которые приводят к повальному пьянству. Ведь у государственного агитпропа другие задачи.

Не успела утихнуть информационная война против России, как началась новая — против Литвы. Ведущий телепрограммы "Права человека. Взгляд в мир" Евгений Новиков обвинил руководство этой страны в том, что на ее территории прошел семинар с участием лидеров белорусских политических партий и некоторых общественных объединений. Без каких-либо фактов и доказательств на всю страну оповестили, что на семинаре обсуждались вопросы насильственного свержения в Беларуси законно избранной власти. Абсурд, полный абсурд! Но на Белорусском телевидении действуют по-геббельсовски: чем больше лжи, тем больше поверят.

Понятно, такие голословные заявления подрывают добрососедские отношения и сеют напряженность в обществе. Парадоксально, но на все это спокойно смотрит руководство нашей страны.

Подобные заявления перечеркивают Конституцию нашего государства. Ведь граждане Беларуси имеют право свободно передвигаться, покидать страну и беспрепятственно возвращаться. Мы также имеем право на свободу собраний, митингов и демонстраций.

Видимо, "правозащитник" Новиков и иже с ним мечтают, чтобы, выезжая в Польшу, Латвию или Литву, люди спрашивали разрешения и сообщали — куда, к кому и зачем едут.

И "молодой, энергичный премьер", как написала Анна Ивановна, не в силах остановить этот информационно-политический беспредел. Как не в силах он помочь и многим пенсионерам, чья жизнь безвозвратно проходит в лишениях и нужде. Это уже, по-моему, пятый или шестой премьер за время президентства А.Лукашенко.

Менять нужно не министров и премьеров, а систему, которая взрастила коррупцию и кумовство, перессорила нас с соседями на Западе и Востоке, которая показала свою ущербность и несостоятельность за истекшие 10 лет.

## Аб аказанні матэрыяльнай дапамогі ветэранам

23 сакавіка Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб аказанні матэрыяльнай падтрымкі ветэранам Вялікай Айчыннай вайны і іншым катэгорыям грамадзян, што пацярпелі ад наступстваў вайны.

Як паведаміла прэс-служба, згодна з указам Героям Савецкага Саюза, кавалерам ордэна Славы трох ступеняў, Героям Сацыялістычнай Працы, удастоеным гэтага звання за заслугі ў гады вайны, будзе аказана дапамога ў памеры 100 тысяч рублёў; інвалідам Вялікай Айчыннай вайны I і II групы — 80 тысяч рублёў; удзельнікам і інвалідам вайны III групы, а таксама дзецям-інвалідам з дзяцінства, жонкам ваеннаслужачых, партызан і падпольшчыкаў, загінуўшых альбо тых, хто знік без вестак, — 60 тысяч рублёў; астатнім катэгорыям грамадзян, пацярпелых ад наступстваў вайны, — 50 тысяч рублёў.

Матэрыяльная дапамога будзе аказана мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі ўлады з 1 чэрвеня да 1 ліпеня 2004 года.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

## Беларускія лекі

На 18,7 працэнта вырасла ў Беларусі вытворчасць лекавых сродкаў у студзені—лютым 2004 года ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. Найбольш значна — на 70,7 працэнта — вырасла вытворчасць замяняльнікаў крыві і іншых плазмазамяшчальных сродкаў. На 41,7 працэнта павялічыўся выпуск прэпаратаў для лячэння сардэчна-сасудзістых захворванняў, на 16,7 працэнта — прэпаратаў для лячэння хвароб эндакрыннай сістэмы, органаў стрававання і іншых унутраных хвароб.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Крымінальны «градус» Оршы зашкальвае

У Оршы "градус" крымінальнай абстаноўкі ўзняўся на такую вышыню, што нагрузка на праваахоўныя органы горада становіцца ім не пад сілу.

Да такой несуцяшальнай высновы прыйшлі ўдзельнікі нядаўняга пасяджэння гарадскога Савета па каардынацыі дзейнасці міліцыі, пракуратуры і выканаўчай улады, якое адбылося ў гарвыканкаме.

З асаблівай занепакоенасцю гаварылі ўдзельнікі пасяджэння аб тым, што на многіх мясцовых прадпрыемствах створаны найлепшыя ўмовы для крадзяжоў: свабодны доступ у цэхі і на склады, адсутнасць тэхнічных сродкаў аховы. У выніку на адным толькі машынабудаўнічым прадпрыемстве "Орша" (колішні завод "Легмаш") за кароткі тэрмін украдзена матэрыяльных каштоўнасцяў на 15 мільёнаў рублёў. На 6 мільёнаў рознага дабра вынесена з авіярамонтнага завода.

Часцяком зладзеямі становяцца тыя людзі, якім даручана захаванне каштоўнай маёмасці. Так, за крадзеж яе з месца працы нядаўна асуджаны загадчык гандлёвага комплексу камбіната хлебапрадуктаў.

За крадзеж грошай у асабліва буйных памерах прыцягнуты да крымінальнай адказнасці дырэктар аршанскага філіяла унітарнага прадпрыемства "Віцязь".

Усяго ж апошнім часам абвінавачанні ў крадзяжы былі прад'яўлены 17 службовым асобам, сярод якіх ёсць кіраўнікі розных рангаў.

Аднак найбольшая доля злачынстваў прыпадае на беспрацоўных, шэрагі якіх пастаянна растуць за кошт масавых звальненняў на прамысловых прадпрыемствах горада, дзе ў студзені бягучага года не мелі пастаяннай працы каля 3000 чалавек пры 125 вакансіях.

Расце злачыннасць і за кошт асуджаных, якія пасля адбыцця турэмнага зняволення штогод прыязджае ў горад каля 400 чалавек. Летась толькі з аршанскіх калоній вызваліліся 3,5 тысячы асуджаных, больш за палову якіх неўзабаве зноў заняліся злачынным промыслам.

Паспрыяла росту крымінальнага "градуса" ў Оршы і павелічэнне гарадской тэрыторыі за кошт уключэння ў яе шэрагу пасёлкаў і вёсак з агульным насельніцтвам каля 6500 чалавек. Людзі з ускраіны і прадмесцяў — у большасці малазабяспечаныя, малаадукаваныя і нізкакваліфікаваныя. Не знайшоўшы вакансій у Оршы, яны немінуча папоўняць сабой шэрагі беспрацоўных, а многія — і злачынцаў. Думкі аб тым, як разарваць гэтае замкнёнае кола, з'яўляюцца прычынай галаўнога болю мясцовых улад і пакуль што невырашальнай задачай для мясцовых міліцыянераў, колькасць якіх не расла ўжо некалькі год запар.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ПУЛЬС

## Арыштавана маёмасць аб'яднання «Воля да развіцця»

За нявыплату падаткаў з тэхнічнай дапамогі, атрыманай па праграме TASIC, арыштавана маёмасць слонімскага грамадскага аб'яднання "Воля да развіцця".

Як паведаміў БелаПАН старшыня аб'яднання Міхась Варанец, прэтэнзіі, прад'яўленыя да яго арганізацыі, цалкам супадаюць з тымі, што падатковыя органы выказалі ў дачыненні да Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Беларускі Хельсінкскі камітэт".

У снежні 2003 года Слонімская падатковая інспекцыя правяла пазапланавую праверку мэтавага выкарыстання фінансавых сродкаў аб'яднання "Воля да развіцця", якая не выявіла парушэнняў. Аднак наступная пазапланавая праверка, праведзеная ў сакавіку, выявіла нявыплату ў 2003 годзе падаткаў са сродкаў, атрыманых па праграме TASIC.

М.Варанец паказаў падатковым інспектарам дакументы, падпісаныя выканаўчым дырэктарам Каардынацыйнага бюро праграмы TASIC у Беларусі Леанідам Арловым, дзе ўказвалася, што з тэхнічнай дапамогі, атрыманай у рамках праграмы, падаткі не збіраюцца. Аднак работнікі падатковых органаў заявілі, што ў іх ёсць распараджэнне міністра эканомікі аб тым, што аб'яднанне "Воля да развіцця" падлягае падаткаабкладанню. У выніку маёмасць арганізацыі была арыштавана і перавезена ў будынак падатковай інспекцыі.

"Воля да развіцця" атрымала дапамогу па праграме TASIC на дзейнасць клуба для падлеткаў "Святліца".

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## З Гомеля ў Чарнігаў

Савет міністраў Беларусі зацвердзіў Пратакол паміж урадам Беларусі і Кабінетам міністраў Украіны аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у двухбаковае Пагадненне аб парадку перасячэння беларуска-ўкраінскай дзяржаўнай мяжы грамадзянамі, якія жывуць у памежных раёнах.

У адпаведнасці з ім жыхары Гомеля і Чарнігава могуць перасякаць беларуска-ўкраінскую мяжу праз пункт спрошчанага пропуску. Раней гэта ім даводзілася рабіць толькі ў міжнародных і міждзяржаўных пунктах пропуску на мяжы паміж дзвюма краінамі.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## 46 заявак на гранты Сусветнага банка

Беларускія грамадскія арганізацыі падалі 46 заявак у Прадстаўніцтва Сусветнага банка ў Беларусі на ўдзел у конкурсе Праграмы малых грантаў (ПМГ). Як паведамілі БелаПАН у прадстаўніцтве банка, праекты накіраваны на ўстойлівае развіццё, ахову навакольнага асяроддзя, прадугледжваюць работу з сацыяльна неабароненымі слаямі насельніцтва, павышэнне ўзроўню эканамічнай пісьменнасці насельніцтва або ўкараненне новых інфармацыйных тэхналогій.

Праграма малых грантаў Сусветнага банка для грамадскіх арганізацый падтрымлівае "мерапрыемствы, накіраваныя на развіццё шырокамаштабнага дыялога і ўцягванне ўсіх зацікаўленых бакоў у вырашэнне мясцовых пытанняў развіцця". Памер грантаў ПМГ вар'іруецца ад 3 да 7 тысяч долараў ЗША. Перавага аддаецца праектам, якія рэалізуюцца галоўным чынам у невялікіх населеных пунктах.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Зьнялі трох дзяцей з ільдзіны

У другой гадзіне дня вучні 6-х класаў магілёўскіх сярэдніх школ апынуліся на льдзіне, якая адарвалася ад берага і панесла іх па цячэнні Дняпра. Велічыня льдзіны складала каля 10 квадратных метраў.

Паведамленні аб здарэнні пачалі паступаць у аварыйна-ратавальную службу ад жыхароў Магілёва, якія бачылі дрэйфуючых на льдзіне дзяцей. Сітуацыя ўскладнялася тым, што з цягам часу льдзіна памяншалася ў памерах. Для ратавання вучняў былі прыцягнуты работнікі МНС. Пагрузіўшыся ў лодкі, ратавальнікі змаглі аператыўна падплыць да льдзіны і зняць дзяцей.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

ОБРАЗ ЖИЗНИ

# Притон

*Чтобы попасть в него, репортеру «Народной воли» потребовались журналистское любопытство и несколько тысяч рублей. Чтобы покинуть это злачное место без ущерба для здоровья, потребовались везение и смекалка*

### «Мир не без добрых людей»

К своим 45 годам Костя потерял все, что у него было: работу, семью, крышу над головой. Типичный бомж, живущий воспоминаниями и призрачными надеждами на "светлое будущее".

— А что, — вопрошает он, сидя на корточках возле столичного универсама "Волгоград", — я еще крепкий мужик, вот с первого числа пойду и устроюсь на работу. Я когда-то на стройке работал... И не только я, между прочим, двенадцать лет поварского стажа имею. А повара — всегда нужны.

Почерневшие от вольной жизни и грязи руки Кости заметно трясутся; на запястьях замечаю корявые татуировки: на левом "Костя", на правом какой-то бессмысленный узор. Трудно представить, чтобы кто-то рискнул вновь доверить бывшему повару кухню. Обычная, отмечаю про себя, бомжатская песня: мол, день придет и начну новую жизнь. Тем паче что выясняется — у Кости нет ни паспорта, ни трудовой книжки.

— Как же до жизни такой докатился?

— Что бомжую? Жонка выгнала...

— Видно, было за что?

— Было, — с явной неохотой отвечает бродяга по жизни.

В душу к нему я лезть не собираюсь и задаю простейший вопрос, который для большинства жителей Беларуси звучит так: "Как прожить от зарплаты (пенсии) до зарплаты (пенсии)?" Ну а как, не имея пусть мизерного, но твердого дохода, прожить с утра до вечера, чтобы утро следующего дня встретить? Из многочисленных встреч с бездомными давно сделал вывод: если человек умудряется прожить, не работая более полугода, то он овладевает знаниями самой древней науки — выживания. Кто-то занимается сбором макулатуры, кто-то — стеклотары, кто-то промышляет мелким воровством, но на хлеб насущный и бутылку дешевого вина за день наскрести можно. А большего им и не требуется, и нет им дела до растущих цен на коммунальные услуги. Бомж - это не социальный статус, в правовой литературе даже термина такого нет, бомж - это образ жизни. Я встречал бездомных, которые искренне горели желанием и пытались вернуться в нормальную в нашем понимании жизнь, но не знаю ни одного удачного случая.

...Костя успешно освоил науку выживания, свою нишу он нашел. Территория его обитания — универсам "Волгоград". Здесь бомж выполняет роль дворника: зимой снег убрать, лед со ступенек сколоть, в другое время — метлой помахать, иногда местным грузчикам подсобляет, за что чего-нибудь из съестного дадут. Понятно, что порожние бутылки на сей территории — его "законная" добыча. Но все это лишь одна сторона бытия бродяги. А переночевать?

— Мир не без добрых людей, — философски изрекает Костя. - Здесь недалеко живут приятные люди, когда очень холодно, они меня к себе пускают. А хочешь, вместе к ним зайдем? Вот только с пустыми руками как-то неудобно...

Последние слова мой новый знакомый произносит, глядя на свои трясущиеся руки.

### «Ты куда?»

Спустя десять минут мы идем вглубь дворов панельных многоэтажек. Мой провожатый семенит в приподнятом настроении. В кармане у него булькает бутылка водки, в руке он несет завернутые в бумагу четвертинку хлеба и кусок колбасы. Я пытаюсь у него расспросить что-нибудь о людях, к которым он меня ведет, но Костя немногословен: мол, скоро сам узнаешь. Несколько раз за дорогу он вроде как у себя спрашивает: "Зачем водку купили?" Смысл этого вопроса я понял чуть позже.

Мы сворачиваем в арку девятиэтажного дома, проходим с полсотни метров и заходим в подъезд. Костя толкает обшарпанную дверь квартиры на первом этаже и с порога произносит:

— Вот мы и пришли! Знакомься... Это Ольга, а это Борис.

Мой проводник, без сомнений, здесь свой человек, но у меня возникает ощущение, что и меня здесь ждали. И очень давно.

Костя извлекает из кармана водку, проходим в кухню. Бегло изучаю обстановку и понимаю, куда меня нелегкая занесла. Впрочем, иного я и не ожидал. В подобных квартирах уже приходилось бывать: минимум мебели со следами былых разборок, на выцветших обоях середины прошлого века бурые подтеки и "ссадины" — будто в стены что-то стеклянное метали, а затем чьей-то головой пытались гвоздь загнать. Такие места находятся под особым милицейским контролем и иначе, как притонами, не называются. Во время профилактических и прочих мероприятий стражи порядка сюда в первую очередь наведываются. Иногда приглашают и журналистов. А теперь я один и без охраны.

Под стать жилищу и хозяева. Борис: лет пятьдесят, тяжелый взгляд, движения неторопливы, немногословен, хотя есть свободная табуретка, он присаживается на корточки — типичная привычка всех бывших зэков. Интересно, сколько раз он сидел? Вопрос вслух я не задавал, но ответ получил от Ольги, когда Борис ненадолго вышел из кухни.

— Я тебя хочу предупредить, — обращается она ко мне, — Бориса жизнь покрутила, он два раза сидел, но вспоминать об этом не хочет, и про зону лучше не болтать. Он сорваться может, особенно когда выпьет...

— Ты тоже сидела? - пока нет Бориса, интересуюсь у хозяйки. Ольга — женщина неопределенного возраста, лицо алкоголички со стажем, правда, она полная противоположность Бориса — подвижная, глаза живые, улыбается, любит поболтать.

— Нет, я не сидела, — говорит она, — в прямом смысле. Я в ЛТП была. Четыре раза...

— Сколько?!

— Четыре, — с каким-то удовольствием повторяет Ольга.

— Ну и как успехи? - это единственное, что я, ошарашенный, соображаю спросить.

Ольга залихватски опрокидывает рюмку в рот:

— А вот так! Г... им на лопате! Как пила, так и буду пить! Водку вот давно не пила.

— Да, водку мы давно не пили, — говорит появившийся в дверном проеме Борис, — зря ты ее купил, надо было три вина по ноль семь взять.

Костя разливает остатки водки, я прошу поменьше, что возражения не вызывает. Застольная беседа переходит на бытовой уровень. Интересуюсь у хозяев, которые давно нигде не работают, на что же они живут, ведь и за квартиру платить надо... Вразумительного ответа не получаю, даже разговорчивая Ольга махает рукой: "Как все, так и мы живем". А вот захмелевший Борис вдруг выдавливает весьма неприятную фразу:

— Что-то ты много вопросов задаешь, прямо как мент.

Язык мой — враг мой, мысленно кляну себя за журналистское любопытство, пытаясь найти подходящие слова, чтобы выкрутиться, но неожиданно на помощь приходит почти не участвовавший в разговорах Костя:

— Слушай, Борис, что-то я оброс, подстриги меня.

Кухня на время превращается в парикмахерскую. Борис тупыми ножницами кромсает седые патлы бомжа. Ольга, облокотившись на хлипкий стол, мурлычет какую-то песню, а я ищу повод, чтобы покинуть квартиру этих "добрых людей". В дверях появляется крупная деваха, похоже, соседка. Ольга вскакивает, и они о чем-то шепчутся в коридоре. Соседка уходит, но через пару минут вновь появляется. За окном начинает смеркаться, а мне пора смываться, желательно по-английски. Тут в квартиру, теперь у меня уже нет сомнений, типа притон заваливается, видимо, кореш Бориса. Борис завершает стрижку и удаляется с гостем в комнату. Пользуюсь случаем, надеваю куртку, забрасываю на плечо сумку и...

— Ты куда? - вопрос в спину, как удар. Даже не знаю, чего в словах Бориса больше: угрозы или негодования. Догадываюсь, что просто так меня отсюда не выпустят. Оборачиваюсь и удивленно спрашиваю:

— Как куда? За бутылочкой! Ольга, — зову хозяйку, — одевайся, идем в магазин.

Эти слова Бориса успокаивают, и он уже мягче произносит:

— Водку не бери...

— Я знаю, — перебиваю его, — три по ноль семь.

Ольга набрасывает на себя видавшую виды шубейку, и мы покидаем прокуренную квартиру. Я точно навсегда. Но Ольга об этом еще не знает.

У стеклянной двери универсама "Волгоград" я притормаживаю.

— Так, Ольга, ты иди в отдел, посмотри, что там есть, а я сейчас газету куплю.

Ольга послушно идет в универсам, я — торопливо на остановку. Мне повезло, автобус долго ждать не пришлось.

**Виталий ЧИЖОВСКИЙ.**

**От автора.** Мне действительно повезло. Не только потому, что я внутренне был готов к развитию, скажем так, неприятных событий. Не только потому, что в мою рюмку наливали поменьше и я контролировал себя. Кстати, рюмка эта, пока в бутылке плескалась водка, была у меня на глазах, ибо "добрые люди" могли припасти для гостя пару капель клофелина. И не только потому, что я вовремя ушел. Сценарий мог быть совсем иным.

Из милицейской сводки:

*"В 17.30 в Первомайское УВД обратился гражданин Г. 1947г.р., который сообщил, что трое неизвестных пригласили его в кв. №... д. №...по улице Волгоградской, где заковали в наручники, избили и отняли 40 тысяч рублей, бутылку коньяка и ключи от его квартиры".*

Двоих обидчиков гражданина Г., благо он адрес запомнил, задержали в той же квартире. Молодые парни, но ранее судимые. Я не знаю, почему гражданин Г., извините, поперся в эту квартиру с незнакомцами. Возможно, по простоте душевной, но ему тоже повезло, пусть и не так крупно, как мне. В сводке запросто могли появиться и более печальные слова. Например, такие: *"На улице Волгоградской был обнаружен труп неизвестного мужчины со следами насильственной смерти".* Увы, и такие случаи не редкость.

